**ВЫБУХОЎКУ ШУКАЛІ У ГРАМАДСКІХ АКТЫВІСТАЎ**




НА БАРАНАВІЦКІМ ЦЭНТРАЛЬНЫМ ВАКЗАЛЕ

СТАР. 2

Веснік ПРАВАбаронцы

**ПРАПАНУЕЦЦА УЛАДАМ ГУМАНІЗАВАЦЬ**

КРЫМІНАЛЬНА-ВЫКАНАЎЧАЕ ЗАКАНАДАЎСТВА



СТАР. 3

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ


# ДЗЯРЖДЭПАРТАМЕНТ ЗША ЎЗНАГАРОДЗІЎ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА ЗА ДЗЕЙНАСЦЬ У ГАЛІНЕ АБАРОНЫ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

Дзяржэпартамент ЗША ўзнагародзіў зняволенага кіраўніка Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага за дзейнасць у галіне абароны правоў чалавека. «Гэтая ўзнагарода адзначае асобаў і няўрадавыя арганізацыі, якія дэманструюць надзвычайную мужнасць і лідарскія якасці ў абароне правоў чалавека і дэмакратыі ва ўмовах рэпрэсій з боку ўрада», – паведамляецца ў заяве Дзяржэпартамента.




Часовы паверaны ў справах ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Майкл Скэнлан і жонка Алеся Бяляцкага Наталля Пінчук.

19 траўня
ЗАЯВА ПРЭС-САКРАТАРА ДЗЯРЖДЭПАРТАМЕНТА ЗША ВІКТОРЫІ НУЛАНД

Атрымальнікі Узнагароды за дзейнасць у галіне абароны правоў чалавека

Дзяржаўны дэпартамент ЗША рад аб'явіць, што Алесь Бяляцкі з Беларусі і Кааліцыя грамадзянскай супольнасці па правах чалавека і канстытуцыйнаму праву з Уганды атрымалі Узнагароду за дзейнасць у галіне абароны правоў чалавека 2011 г. Гэтая ўзнагарода адзначае асобаў і няўрадавыя арганізацыі, якія дэманструюць надзвычайную мужнасць і лідарскія якасці ў абароне правоў чалавека і дэмакратыі ва ўмовах рэпрэсій з боку ўрада.

Алесь Бяляцкі мужна бараніў правы пацярпелых ад пераследу людзей і іх сем'і, нягледзячы на пагрозу з боку ўрада Беларусі. Як заснавальнік "Вясны", адной з буйнейшых праваабарончых арганізацый Беларусі, Бяляцкі прадстаўляў юрыдычную і практычную дапамогу ахвярам няспыннага пераследу і выступаў ключавой крыніцай інфармацыі аб парушэннях правоў чалавека. Зараз ён з'яўляецца палітычным зняволеным, адбываючы турэмнае пакаранне ў чатыры з паловай гады за абарону правоў чалавека.

Кааліцыя грамадзянскай супольнасці па пытаннях правоў чалавека і канстытуцыйнага закона Уганды ўзнагароджана за эфектыўную абарону правоў прадстаўнікоў супольнасці лесбіянак, гееў, бісэксуалаў і транссэксуалаў (ЛГБТ), часта рызыкуючы ўласнай бяспекай. Кааліцыя, якая складаецца з 40 НДА Уганды, паспяхова бараніць правы прадстаўнікоў ЛГБТ супольнасці ў судах Уганды, распачала публічны дыялог па пытаннях праў ЛГБТ супольнасці ва Угандзе, а таксама кінула выклік шырока распаўсюджанаму скажонаму ўспрыманню і прадузятасці. Структура Кааліцыі, эфектыўнасць яе працы і ўзаемадзеянне з грамадзянскай супольнасцю Уганды служыць мадэллю для праваабаронцаў ва ўсім свеце.

Сёлета на ўзнагароду былі намінаваныя прадстаўнікі з усіх куткоў свету. Сярод арганізацый былі намінаваныя НДА Common World (Агульны свет) і Little Bird Mutual Assistance Hotline (Гарачая лінія ўзаемадапамогі "Маленькая Птушка") з Кітая, а таксама Група ўзаемадапамогі і Цэнтр прававой дапамогі ў сферы правоў чалавека з Гватэмалы. Выбітная група асобаў прадстаўлена ў індывідуальнай намінацыі: Хорхе Молан з Калумбіі, Адзілур Рахман Зан з Бангладэш, Георг Фрыман з Сьера Леонэ, Гавінда Прасад Шарма Каірала з Непала, суддзя Высокага суда Свазілэнда Томас Масуку, Ігар Каляпін з Расіі, Зарганар з Бірмы і Зау Мін Хтут, абаронца правоў народа Рахінг'я, які зараз жыве ў Японіі.

Злучаныя Штаты салідарныя з гэтымі абаронцамі правоў чалавека і актывістамі грамадзянскай супольнасці, якія робяць сваю цяжкую працу кожны дзень у любой частцы свету, каб зрабіць рэальнасцю тое, што гарантавана Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека.

spring96.org




## Заява Праваабарончага цэнтру "Вясна" з нагоды крымінальнага прысуду Васілю Парфянкову

У панядзелак, 29 траўня судом Першамайскага раёна Менска грамадскі



актывіст Васіль Парфянкоў быў асуджаны на 6 месяцаў арышту па арт. 421 КК Рэспублікі Беларусь (за парушэньні ўмоваў прафілактычнага нагляду, устаноўленага судом).

Васіль Парфянкоў у лютым 2011 году быў асуджаны да чатырох гадоў пазбаўленьня волі па ч. 2 арт. 293 КК РБ ("удзел у масавых беспарадках") за ўдзел у акцыі пратэсту супраць фальсіфікацый падчас прэзідэнцкіх выбараў, у жніўні таго ж году – памілаваны згодна з указам прэзідэнта.

Пасля свайго вызваленьня Васіль Парфянкоў працягваў грамадскую дзейнасьць і неаданаразова затрымліваўся за ўдзел у акцыях ў падтрымку беларускіх палітвязьняў, якія застаюцца за кратамі.

spring96.org

# У БАРАНАВІЦКІХ АКТЫВІСТАЎ ШУКАЛІ ВЫБУХОЎКУ




У аўторак, 1 мая, у 8.30 супрацоўнікі Баранавіцкага аддзела ўнутраных спраў на транс парце затрымалі на Цэнтральным вакзале групу грамадскіх актывістаў. Яны збіраліся раніцай выехаць у Мінск цягніком, каб прыняць удзел у пасяджэнні ініцыятыўнай групы Дзмітрыя Уса. У ліку затрыманых Вячаслаў Болбат, Рыгор Грык, Арцём Бабей і Аляксандр Давыдаў.

Па словах Рыгора Грыка, іх затрымлівала восем міліцыянтаў і восем чалавек у цывільным на пероне вакзалу Баранавічы-Цэнтральныя, калі яны чакалі цягнік № 106 Брэст-Мінск. Міліцыянты паведамілі, што ў затрыманых, па іх звестках, ёсць выбуховыя і падазроныя рэчы. Таму ўсіх затрыманых накіравалі ў лінейны аддзел станцыі Баранавічы-Цэнтральныя, дзе іх абшукалі і склалі пратаколы дагляду і вобшуку. Нічога падазронага не знайшоўшы, ўсіх затрыманых адпусцілі праз 2,5 гадзіны.

### Баранавіцкі актывіст абскарджвае першамайскае затрыманне

Грамадскі актывіст Рыгор Грык 6 мая 2012 зрабіў запіс ў кнізе скаргаў і прапаноў ГАУС на транспарце на дзеянні капітана міліцыі Анатоля Чыкуна. У сваёй скарзе ён напісаў, што 1 мая збіраўся ехаць у Мінск па ўласнай справе, але быў затрыманы на станцыі Баранавічы-Цэнтральныя па падазрэнні наяўнасці выбуховых рэчываў.

– Мяне абшукалі і склалі пратакол дагляду і вобшуку, – паведаміў Рыгор Грык. Капітан міліцыі Анатоль Чыкун не патлумачыў мае правы і не выдаў пратакол дагляду. У сваёй скарзе я напісаў, што хацеў бы знаць чаму мяне пратрымалі ў міліцыі амаль тры гадзіны, калі сумку можна было праверыць за адну хвіліну. Таксама я патрабую кампенсацыі за маральныя і матэрыяльныя страты, бо ў Мінск я спазніўся і не прыняў удзел у запланаваным мерапрыемстве,- патлумачыў Рыгор Грык.

### Падпалкоўнік Пракуда: баранавіцкіх актывістаў затрымлівалі “законна”

У панядзелак, 25 мая, Грамадскі актывіст Рыгор Грык атрымаў пісьмовы адказ з Баранавіцкага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце за подпісам падпалкоўніка Пракуды В.І. Раней мы паведамлялі, што 6 мая актывіст зрабіў запіс ў кнізе скаргаў і прапаноў ГАУС на транспарце на дзеянні капітана міліцыі Анатоля Чыкуна. У сваёй скарзе ён напісаў, што 1 мая збіраўся ехаць у Мінск па асабістай справе, але быў затрыманы на станцыі Баранавічы-Цэнтральныя па падазрэнні наяўнасці выбуховых рэчываў.

– Мне пісьмова паведамілі, што супрацоўнікі транспартнай міліцыі дзейнічалі ў адпаведнасці с законам,– паведаміў Рыгор Грык. – Ну як жа ў адпаведнасці с законам, калі мне не патлумачылі правы і не выдалі пратакол дагляду. Ніхто не гаворыць, за што мяне пратрымалі ў міліцыі амаль тры гадзіны, калі сумку можна было праверыць за адну хвіліну. Таксама маўчаць, што я патрабую кампенсацыю за маральныя і матэрыяльныя страты, бо ў Мінск я спазніўся і не прыняў удзел у запланаваным мерапрыемстве. Таму цяпер я буду звяртацца ў пракуратуру на транспарце, каб пракурор даў прававую ацэнку дзеянням супрацоўнікаў міліцыі,- патлумачыў Рыгор Грык.

## У Баранавічах ушанавалі памяць ахвяраў сталінскіх рэпрэсій

Прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці Баранавічаў 9 мая 2012 адзначылі Дзень Перамогі ўшанаваннем памяці загінуўшых.

Вячаслаў Сухарэбскі, Аляксандр Галькевіч, Віктар Цяпін, Рыгор Грык, Эдуард Карапетаў, Аляксандр Паўлоўскі, Арцём Бабей спачатку ўсклалі кветкі да Вечнага агню ў цэнтры горада. Пасля ўскладання кветак ля сімвала Чырвонай Арміі грамадскія актывісты партый і рухаў накіраваліся да Крыжа сталінскіх ахвяраў (скрыжаванне вуліц Смаленская і Пірагова). Раней тут была турма “Крывое кола”, у якой былі замардаваны тысячы нявінных людзей. Таму тут у 1992 годзе і быў усталяваны Крыж – знак памяці пра ахвяраў бальшавіцкіх рэпрэсій.

– Баранавіцкія сябры і прыхільнікі недзяржаўных партый і арганізацый ўзялі на сябе абавязак даглядаць памятную мясціну ў гэтым скверы. Сёння мы тут не толькі ўсклалі кветкі, але і прыбралі тэрыторыю ад смецця,– паведаміў грамадскі актывіст Рыгор Грык.

Сяргей Законнікаў

## Чыноўнік Сумар паставіў актывісту Чарнавусу невыканальныя ўмовы




Грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус з Баранавіч ужо два гады абівае парогі кабінетаў розных чыноўнікаў, каб атрымаць у арэнду памяшканне для рэгістрацыі грамадскага аб’яднання баранавіцкіх украінцаў “Кабзар”.

Апошні візіт у сярэдзіне траўня гэтага года да старшыні Берасцейскага аблвыканкама Канстанціна Сумара аптымізму не дадаў, бо, як распавёў Чарнавус, яму былі пастаўлены нялёгкія ўмовы для дасягнення мэты. Спачатку галоўны чыноўнік вобласці прапанаваў Чарнавусу ахвяраваць 15 мільёнаў рублёў у гарадскі бюджэт, тады, маўляў, пытанне з арэндай і рэгістрацыяй можа быць вырашана. Калі Чарнавус сказаў, што ён не ў стане падараваць 15 мільёнаў гораду, бо грошы спатрэбяцца, каб вывезці малазабяспечаных дзяцей на адпачынак у Сімферопаль, Сумар паставіў новую ўмову: каб Чарнавус зрабіў горад Сімферопаль пабрацімам горада Баранавічы – тады ён, Сумар, пасобіць у пытанні з арэндай і рэгістрацыяй.

Па словах Чарнавуса, ён, канешне, пастараецца паспрабаваць зрабіць штосьці ў гэтым накірунку. Але ці хопіць у яго паўнамоцтваў справіцца з гэтай задачай, калі афіцыйна нават не існуе аб’яднання украінцаў у Баранавічах – гэта пытанне.

Віктар Смоўж

# БАРАНАВІЦКІЯ ПРАВААБАРОНЦЫ ПРОСЯЦЬ ДЭПУТАТАЎ ГУМАНІЗАВАЦЬ КРЫМІНАЛЬНА-ВЫКАНАЎЧАЕ ЗАКАНАДАЎСТВА

У панядзелак, 21мая, сябра Баранавіцкай гарадской філіі Беларускага Хельсінкскага камітэта Анжаліка Камбалава накіравала лісты старшыні камісіі па заканадаўстве Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Схода Мікалаю Самасейку, дэпутатам Святлане Пішч і Анатолю Ванькову з прапановаю гуманізаваць крымінальна-выканаўчае заканадаўства краіны. У лістах паведамляецца, што ў адпаведнасці з артыкулам 118 Крымінальна-выканаўчага Кодэкса РБ асуджаныя да пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў папраўчых калоніях ва ўмовах агульнага рэжыму маюць права атрымліваць чатыры перадачы і дзве бандэролі ці два дробныя пакеты на працягу года ад родзічаў. А бандэролі не ад родзічаў прымаюцца толькі з дазволу начальніка папраўчай установы. На практыцы атрымліваецца так, што перадачу вагой 30 кг прыносіць старэнькая матуля, а маладыя і здаровыя не могуць перадаць асуджанаму нават пачак гарбаты.




– Судовыя рашэнні абмяжоўваюць волю абвінавачанага, але не адмаўляюць правы на паўнавартаснае харчаванне і простыя чалавечыя патрабаванні, - кажа Анжаліка Камбалава. – Таму мы прапаноўваем дэпутатам унесці змяненні ў дзеючае заканадаўства, каб яно гучала так: "...асуджаныя да пазбаўлення волі маюць права атрымліваць неабмежаваную колькасць пасылак і перадач ад родзічаў і сяброў".

Сябра БХК таксама просіць дэпутатаў падумаць над далейшай гуманізацыяй заканадаўства ў адносінах да асуджаных.

## Суддзі заблыталіся ў судах

У аўторак, 15 мая, Баранавіцкі прадпрымальнік Мікола Чарнавус звяртаўся ў Брэсцкі абласны суд з просьбай адмяніць рашэнне Баранавіцкага гарадскога суда адносна непадведамаснасці агульнаму суду разгляду справы аб незаконных выбарах Савета мясцовага рынка і накіраваць справу на новы разгляд.

У абласным судзе незадавальненне іску растлумачылі тым, што справу Чарнавуса павінен разглядаць Брэсцкі гаспадарчы суд, пры тым, што двойчы ў гаспадарчым судзе ( суддзі Людміла Леванчук і Таццяна Людвіг) яму адказвалі, што яго справай павінен займацца агульны суд.

Па словах юрыста-праваабаронцы Уладзіміра Малея, суддзі гаспадарчага суда выявілі сваю некампетэнтнасць, паколькі ў Пастанове Вярхоўнага суда і Вышэйшага гаспадарчага суда выразна напісана аб тым, што менавіта гаспадарчы суд павінен разглядаць спрэчнае пытанне паміж юрыдычнымі асобамі, якімі з'яўляецца прадпрымальнік Чарнавус, гарвыканкам і ПГУП "Баранавіцкі кааператыўны рынак".

Нагадаем, што ў снежні 2011 года адміністрацыя гарвыканкама і рынка прызначылі новы Савет, тым самым парушыўшы Указ прэзідэнта №148 і Пастанову Савета міністраў № 375, дзе сказана, што Савет рынка абіраецца на агульным сходзе. Па словах Чарнавуса, ніякага сходу прадпрымальнікаў не было. Ён звяртаўся са скаргай у Баранавіцкую раённую пракуратуру і двойчы ў абласную. Але там ніякіх парушэнняў не ўбачылі.

Чарнавус будзе звяртацца ў гаспадарчы суд і зробіць намаганне, каб суд усё ж такі разгледзеў яго заяву і прыняў па ім пастанову згодна заканадаўству.

Сяргей Законнікаў

## Статкевіча – старэйшага павіншавалі з Днём Перамогі



Баранавіцкая грамадскасць не пакідаюць без увагі бацьку палітвязня Міколы Статкевіча. На свята перамогі 9 мая праваабаронцы і грамадскія актывісты павіншавалі Віктара Паўлавіча з Днём Перамогі і пажадалі яму моцнага здароўя і найхутчэйшай сустрэчы з Мікалаем Статкевічам, які цяпер знаходзіцца ў Магілёўскай турме № 4.

Пагаварылі пра магчымую амністыю 3 ліпеня і вызваленне палітвязняў, пра сацыяльна-эканамічнае і палітычнае становішча ў дзяржаве.

– Віктар Паўлавіч сапраўдны ветэран, якога мы ўсе вельмі паважаем за мужнасць, – паведаміў старшыня гарадской суполкі "Руха "За свабоду" Віктар Сырыца. – У гады вайны ён дапамагаў партызанам знішчаць нямецкія камунікацыі.

Ад смерці яго ўратаваў родны бацька, закрыўшы сваім целам ад нямецкай кулі. Таму мы стараемся заўсёды павіншаваць Віктара Паўлавіча Статкевіча са святамі і маральна падтрымаць у цяперашні нялёгкі для яго час, – патлумачыў Віктар Сырыца.

Аляксей Пузікаў

## Баранавіцкі актывіст скардзіцца на пракурораў Лукашэнку




Баранавіцкі грамадскі актывіст Рыгор Грык 11 мая 2012г. накіраваў скаргу А. Лукашэнку на дзеянні Генеральнага пракурора, пракурораў г.Баранавічы і Брэсцкай вобласці. У сваім лісце ён паведамляе, што пракурор г.Баранавічы Більдзейка М.А. незаконна вынес яму афіцыйнае папярэджанне за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве 8 кастрычніка 2011 года ў старым парку горада. Рыгор Грык паскардзіўся абласному пракурору Точка А.Т. на дзеянні гарадскога пракурора, але той таксама прызнаў грамадскага актывіста вінаватым не толькі ва ўдзеле ў мясцовым сходзе, але ўжо і арганізатарам несанкцыянаванага мерапрыемства ў Баранавічах. У сваю чаргу Генеральны пракурор не стаў разгдядаць справу Грыка па сутнасці, а накіраваў яе да разгляду тым жа пракурорам, на якіх і скардзіўся заяўнік.

– Таму ў сваім лісце я прашу Лукашэнку абавязаць Генеральнага пракурора Беларусі разглядзець маю скаргу па сутнасці і адмяніць афіцыйнае папярэджанне, вынесенае мне незаконна,– паведаміў Рыгор Грык.

Віктар Смоўж

# ДЗЯРЖДЭП ЗША НАГАДАЎ ПРА ЗЬНІКЛЫХ ПАЛІТЫКАЎ

Сёньня Дзярждэпартамэнт ЗША абнародаваў штогадовую справаздачу аб стане правоў чалавека ў сьвеце ў 2011 годзе. Частка справаздачы, прысьвечаная Беларусі, якая ў дакумэнце называецца «аўтарытарнай дзяржавай», зьмяшчае моцна крытычныя ацэнкі.



Дакумэнт прадставіла ў Вашынгтоне дзяржаўны сакратар ЗША Гілары Клінтан. Яна адзначыла, сярод іншага, што ў 2011 «сьвет невымерна зьмяніўся». У гэтым кантэксьце яна асабліва падкрэсьліла палітычныя зрухі ў Паўночнай Афрыцы і на Блізкім Усходзе, дзе людзі «сталі патрабаваць павагі да чалавечай годнасьці, большых эканамічных магчымасьцяў, большых палітычных свабодаў».

Прапануем вашай увазе прэамбулу беларускага разьдзелу справаздачы зь невялікімі скарачэньнямі:

Найбольш значнымі праблемамі ў галіне правоў чалавека па-ранейшаму застаюцца: няздольнасьць грамадзянаў зьмяніць уладу; сыстэма, пазбаўленая прынцыпу стрыманьня і процівагі, у якой улады допускаюць частыя і сур'ёзныя злоўжываньні; палітычна матываванае пазбаўленьне волі сотняў людзей на працягу года. Акрамя таго, улады да гэтага часу не прадставілі справаздачы аб палітычна матываваным зьнікненьні людзей у мінулым.

Іншыя праблемы з правамі чалавека ўключалі злоўжываньні з боку сілаў бясьпекі, якія зьбівалі затрыманых і дэманстрантаў, ўжывалі празьмерную сілу для разгону мірных дэманстрантаў і, паводле паведамленьняў, ужывалі катаваніні і/або жорсткае абыходжаньне ў сьледстве і турмах. Умовы ў турмах заставаліся надзвычай дрэнныя.

Улады выкарыстоўвалі неапраўданыя арышты, затрыманьні і зьняволеньні грамадзянаў за крытыку чыноўнікаў, за ўдзел у дэманстрацыях і зь іншых палітычных прычынаў.

Судовай ўладзе не хапала незалежнасьці, яна пакутавала ад неэфэктыўнасьці і палітычнага ўмяшаньня; вынікі судовых справаў часта былі перадвызначаныя, а шмат якія працэсы праводзіліся пры зачыненых дзьвярах або завочна.

Улады працягвалі парушаць правы грамадзян на недатыкальнасьць прыватнага жыцьця. Яны далей абмяжоўвалі грамадзянскія свабоды, у тым ліку свабоду слова, друку, сходаў, асацыяцый, рэлігіі і руху. Канфіскоўвалі друкаваныя матэрыялы актывістаў грамадзянскай супольнасьці і перашкаджалі незалежным сродкам масавай інфармацыі ў распаўсюджваньні інфармацыі і матэрыялаў.

Улады па-ранейшаму перашкаджалі ў дзейнасьці некаторых рэлігійных груп або забаранялі іх, час ад часу штрафуючы іх або абмяжоўваючы іх актыўнасьць. Улады пераследавалі праваабарончыя групы, няўрадавыя арганізацыі і палітычныя партыі, адмаўляючы ў рэгістрацыі шмат якім зь іх, а потым пагражаючы ім крымінальным перасьледам за дзейнасьць без рэгістрацыі.

Карупцыя ва ўсіх галінах улады працягвала заставацца праблемай. Гвалт і дыскрымінацыя ў адносінах да жанчын, гэтаксама як і гвалт у дачыненьні да дзяцей, таксама заставаліся праблемай. Гандаль людзьмі заставаўся сур'ёзнай праблемай. Існавала дыскрымінацыя ў адносінах да асобаў з абмежаванымі магчымасьцямі, цыганоў, этнічных і сэксуальных меншасьцяў, асобаў зь ВІЧ/СНІД, як і тых, хто імкнуўся карыстацца беларускай мовай.

Улады перасьледавалі і час ад часу звальнялі з працы сяброў незалежных прафсаюзаў, сур'ёзна абмяжоўваючы магчымасьці працоўных ствараць і ўступаць у незалежныя прафсаюзы ды арганізоўваць і весьці калектыўныя перамовы.

Улады ўсіх узроўняў дзейнічалі з пачуцьцём беспакаранасьці і не рабілі захадаў дзеля судовага перасьледу або пакараньня службовых асобаў ва ўрадзе і сілавых структурах, якія парушалі правы чалавека.

spring96.org

"ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК"
Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь
З пытаньнямі, заўвагамі і прапановамі звяртацца на адрас: viasna_bar@tut.by
Распаўсюджваецца бясплатна. Накалад 299 асобнікаў
Веснік ПРАВААБАРОНЧЫ